Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem

№ 84 (135). Вільня, Серада 16 Лістападу 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Нашыя „апякуны“.

Польская газэта „Kurjer Wileński“ даволі часта забірае голас у беларускіх справах, быццам прыхільна трактуючы беларускі адраджэнскі рух. Эндэцкая газэта „Dzieńnik Wileński“ таксама піша аб Беларусах весткі, але выразна не прызнаючы Беларусаў і дамагаючыся рэпрэсіяў проці беларускага адраджэнскага руху. На першы пагляд выглядае, што „Kurjer Wil.“ зьяўляецца прыхільным да беларускага руху, г. зн. хоча зьдзейсьненьня ідэалаў Беларускага Народу, а „Dz. Wil.“ наадварот, зьяўляецца ворагам беларускага руху і затым імкнецца задушыць гэты рух, адкрыта абвяшчаючы вайну беларускаму грамадзянству. Хоць на першы пагляд можа здавацца, што між гэнымі польскімі газэтамі ёсьць выразная рожніца ў паглядах на сутнасьць беларускай справы, аднак-жа калі правесьці дакладны аналіз гэных поглядаў, дык пракананемся, што як адна, так і другая газэты фактычна зьяўляюцца ворагамі беларускага руху, якія імкнуцца задушыць беларускі нацыянальны рух. Праўда, ёсьць рожніца, але не па зьместу справы, а толькі ў спосабах змаганьня з беларускім рухам. Калі „Dz. Wil.“ адкрыта кажа: „іду на вас, Беларусы“, дык „Kur. Wil.“ наадварот, прыкідываецца нашым прыяцелям і хоча „апякавацца“ намі—Беларусамі. Каб даказаць гэтае цьвярджэньне, разважым некалькі фактаў, якія скідаюць заслону з запраўднага аблічча нашых „апякуноў“.

Перадусім прыточым тут некаторыя выпіскі з артыкулу „S. W.“ „У дагонку за мандатамі“, які быў зьмешчаны ў № 261 „Kur. Wil.“

„Напрыклад, пасьля арышту паслоў б. Грамады „сельсаюзніцкая“ прэса пачала гвалтоўную атаку проці заслужанага дзеяча А. Луцкевіча. Ня было закіду, ня было бруду досыць вялікага, каб ім не аплявана Луцкевіча. Адно толькі на аснове гэтых „рэвэляцыйных“ адкрыцьцяў зьмешчаных у шовіністычнай „Сялянскай Ніве“, трэба было ўзьняць проці Луцкевіча справу аб здрадзе стану. Са свайго боку беларуская прэса варожая Луцкевічу зрабіла ўсё, што было ёй магчыма, каб справакаваць арышт гэтага дзеяча. Нават ужо пасьля факту арышту і пасаджэньні п. Луцкевіча ў вастрозе на Лукішках „сельсаюзніцкая“ прэса ня магла ўспакоіцца. Падаючы прэсавую качку пазычаную *з польскай часопісі* (курсыў наш) аб быццам „рэвэляцыйных“ паказаньнях п.п. Тарашкевіча і Астроўскага, якія быццам меліся прычыніцца да арышту Луцкевіча, ня ўважалі за патрэбнае адпаведна патрактаваць прэсавую качку...“

„Намеры аўтараў вельмі ясныя, каб можна было мець які небудзь у гэтым кірунку сумліў. Хадзіла ім аб тое, каб гэтакім спосабам апусьціць у апініі беларускага грамадзянства паслоў, што сядзяць у Вронках, сваіх некалісь найвыдатнейшых працаўнікаў“

Далей аўтар пераходзе да сьвяткаваньня 10-х угодкаў істнаваньня сярэдняй беларускай школы і піша, што на ім нікога ня было з беларускіх дзеячаў з іншых кірункаў.

Вывады свае „Kur. Wil.“ заканчвае між іншым такімі сказамі:

„Маральнае гніьлё і кар'ераўшчына, гэта адзнакі павадыроў народу, якія яшчэ *не дарасьлі да таго, каб фактычна быць яго павадырамі*“ (курсыў наш).

„Сёньня ў дагонку за мандатамі перарвана з усялякай прызваітасьцяй. Брудная, праціўная дэмагогія—вось ежа, якая даецца свайму грамадзянству“.

„Трагэдыей сёньнешніх беларускіх адносінаў ёсьць тое, што за імі, за несумленнымі палітычнымі павадырамі стаіць беларускі народ, просты, маральна здаровы і чысты, які да скарбніцы агульналюдзкай культуры мог-бы ўлажыць не адну даражэйшую вартасьць...“

Вось што піша ў „Kur. Wil.“ п. S. W. Не закранваем тут справы нашых адносінаў да Луцкевіча, бо ўважаем, што калі ён арыштаваны і сядзіць у польскім вастрозе, дык ня маем маральнага права крытыкаваць яго дзейнасьць. Але, дзівіць нас вельмі тое, чаму гэта „Kur. Wil.“—орган вельмі блізка стоячы да ўраду, вінаваціць „сельсаюзніцкую“ прэсу ў арышце Луцкевіча?! Ці-ж польская пракуратура і паліцыя зьяўляюцца выканаўчымі органамі сельсаюзніцкай прэсы?! Ці ня бліжэй толькі да гэтых выканаўчых органаў стаіць сам „Kur. Wil.“?!

Мы ведаем толькі, што ніхто з сельсаюзніцкай прэсы не пакліканы сьведкай у справе арышту Луцкевіча, дык знача, арышт наступіў дзякуючы іншым даносам. „Kur. Wil.“ відаць добра знае фактычныя падставы да арышту Луцкевіча, толькі хоча віну якраз зваліць на таго, хто яму найбольш непадабаецца. Але гэтае зваліваньне занадта белымі ніткамі сшыта.

Пасьля арышту Луцкевіча „Сял. Ніва“ ў № 75 пісала: „...па загаду пракурорскіх уладаў арыштаваны гр. А. Луцкевіч. Польская газэта „Kur. Wil.“ аб арышце піша наступнае.

Далей якраз была зьмешчана „прэсавая качка“, як гэта сам S. W. прызнаецца, але гэтая качка ўзята не ад каго іншага, а як толькі з гэтай самай газэты „Kur. W.“. Аднак падаючы гэтую вестку „Сял. Ніва“ дапісала наступнае:

„Хоць „Kurjer Wileński“ зьяўляецца ўрадавай часопісяй і затым павінен быць найлепш паінфармаваны аб ходзе сьледзтва ў справе „Грамады“, аднак пададаная ім вестка аб сэнсацыйным паказаньні пасла Б. Тарашкевіча і гр. Р. Астроўскага зьяўляецца вельмі сумліўнай“.

З гэтага бачым да якой нізасьці дайшоў аўтар артыкулу „У дагонку за мандатамі“, калі качку сваей газэты „Kur. W.“ пачаў запісваць на рахунак Беларусаў.

Цяпер зьяўляецца зусім ясным—каму хадзіла аб тое, каб „апусьціць у апініі беларускага грамадзянства паслоў“. Якраз гэта патрэбна нашым беларускім „прыяцелям“ з „Kur. Wil.“. Дык і зусім ясна, той хто прыкладаў сваімі артыкуламі сваю працу да арышту паслоў, той, пасьля іх арышту, хоча, каб іх дыскрэдытаваць у вачох беларускага грамадзянства. Ведама нам, хто паслоў арыштоўваў і якая польская прэса хваліла ўрад за арышты.

Адно толькі ня зусім ясна, чаму „Kur. Wil.“ хваліць цяпер Луцкевіча, а не хваліць арыштаваных паслоў, якія ўжо прасядзелі шмат больш у вастрозе за Луцкевіча?! Маем надзею, што і гэтая ня зусім яснасьць воляй-новоляй праясьніцца.

З усяго бачым, што „Kur. Wil.“ задаволены з лёсу арыштаваных паслоў і затым стараецца брацца за тых шчырых Беларусаў, якія кіруюць цяпер Беларускім рухам, а яшчэ ня арыштаваны. Яму ходзе, каб паніжаць кіраўнікоў беларускага руху, пішучы, што яны не дарасьлі да таго, каб кіраваць беларускім палітычным рухам. Гэтым падходам „Kur. Wil.“ хоча паказаць, што ў беларускім руху няма адпаведных павадыроў, а затым з такім рухам урад можа сабе ня лічыцца. Вось у гэтым і праяўляецца баламутная „апякунства“ „прыяцеляў“ беларускага руху з „Kur. Wil.“. Яшчэ больш яно будзе відаць, калі мы глянем на апошнія словы аўтара S.W., што за несумленнымі, быццам, павадырамі стаіць Беларускі Народ, просты, чысты, „які да скарбніцы агульналюдзкай культуры мог-бы ўлажыць не адну даражэйшую вартасьць“. Гэтае ацэньваньне Беларускага Народу, а ганеньне яго лепшых павадыроў выглядае вельмі паюдашоўску. Хто-ж прычынай таго, што гэты просты, чысты народ не ўкладае, а толькі мог-бы ўкладаць у скарбніцу культуры вартасьць? Ці-ж ня вы, паночкі з „Kur. Wil.“ і „Dz. Wil.“ не даіцё нам беларускае школы? Ці-ж ня вы не прызнаяцё Беларусам палітычных правоў?! Ці-ж ня вы пашыраеце арышты беларусаў?! Ці-ж ня вы з „Kurjera Wileńskiego“ першыя падавалі рэцэпт ураду аб арыштах і ліквідацыі Грамады?! Ці-ж ня вы прысылаеце нам асаднікаў, замест зямельнае рэформы?! Ці-ж ня вы разьедаецце рукамі Ваявудзкіх і S. W. беларускае грамадзянства?! Ці-ж ня вы зьяўляецеся маральнымі апякунамі гніьля і кар'ераўшчыны і бру-

# ВОКАМ ПА СЬВЕЦЕ.

VI.

7 і 8 лістападу Масква і ўся савецкая саюзная рэспубліка сьвяткавала 10-тыя ўгодкі існаваньня бальшавіцкай улады. Мінула ўжо 10 гадоў з таго часу, калі бальшавікі скінулі ў 1917 годзе тагачасны ўрад Керанскага і палажылі пачатак панаваньня пралетарскай дыктатуры.

Увесь сьвет, з прычыны бальшавіцкага юбілею, на рожныя лады і спосабы, разглядае і тлумачыць гэтае здарэньне. Дык і нам таксама будзе гожа затрымацца некалькі часін над гэтым.

Перадусім адзначым тое, што з арлінага палёту ўдалося заабсэрваваць на самым сьвяткаваньні. Як заўсёды, таксама і на гэты раз, самы сэнс сьвяткаваньня выяўляўся ў рознага роду дэманстрацыях, парадах і мітынгах. Галоўнымі местамі сьвятачных цэрамоніяў былі—Масква і Петраград, які бальшавікі называюць Ленінаградам. На шматлічбовых мітынгах выступалі з прамовамі, у першую чаргу, самыя выдатныя камуністыя, якія цяпер знаходзяцца пры ўладзе. Разумеецца, што яны гаварылі аб тых здабытках, якія бальшавіцкая ўлада замацавала за працоўнымі масамі і малявалі тыя пэрспэктывы, якія прадбачацца ў далейшым.

Тут толькі што гаворана, што выступалі камуністыя, якія цяпер знаходзяцца пры ўладзе, а калі так, дык знача, што ёсьць і такія камуністыя, якія ня маюць улады!...

Над гэтым вось зьявішчам і затрымаемся.

Камуністыя ў камуністычнай дзяржаве і бяз улады... Гук гэтакіх словаў асабліва востра рэжа слух, але-ж нічога не зьмяняецца, бо факт, не ўступае месца ілюзіям. У Расеі, дзе пануюць цяпер камуністыя, ёсьць два камуністычныя кірункі і групы.

Першая група гэта тая, якая мае ўладу і тая, якая не згаджаецца з тактыкаю ўлады, а гэтакім парадкам, знаходзіцца ў апазыцыі да тых, хто ўрадуе.

На чале ўрадавага кірунку знаходзяцца: Сталін, Бухарын, Рыкаў, Калінін і іншыя, а на чале апазыцыі: Троцкі, Зіноўеў, Камянеў, Прэабражэнскі.

У чым-жа рожніца?

Вось на гэтае пытаньне і адкажам.

Мы ўжо ў папярэднім аглядзе адзначылі, што камунізм, гэта—такі грамадзка-дзяржаўны лад, пры якім чалавек працуе колькі можа, а бярэ сабе для карыстаньня колькі трэба. Вось дзеля зьдзейсьненьня гэтых мэтаў бальшавікі захапілі ўладу і адразу хапіліся за выкананьне сваей праграмы. Лёгка і хутка былі адабраны фабрыкі і заводы і пераданы ў дзяржаўнае ўладаньне, а таксама адабралі і зямлю ад абшарнікаў. Усё гэта было вельмі добра, пакуль забіралася, але-ж пасьля, калі пачалося гаспадараваньне на камуністычных пачатках, дык зьявілася адразу вялікая перашкода. Работнікі на казённых фабрыках стараліся працаваць як найменей, а браць як найболей. У савецкіх маёнтках было тое самае. Сяляне таксама не хацелі аддаваць дарма лішкі свайго хлеба. І ў рэзультаце сталася тое, што фабрыкі не аплачвалі сябе, а сяляне сталі нядбала адносіцца да сваіх гаспадарак—рупячыся аб тым, каб заараваць хлеба для сябе бяз лішкі. Цераз пяць гадоў гэтакага парадкаваньня бальшавікі аразумелі, што нельга далей так гаспадараваць, дык і перамянілі эканамічную палітыку ў 1922 г. А тагды, паводле новае эканамічнае палітыкі, стала рабіцца так, каб кожная фабрыка ці завод аплачвалі сябе, а калі не, дык такія фабрыкі аддаваліся ў арэнду, пры гэтым было дазволена арэндатарам вытворы арэндных фабрыкаў прадаваць як і дзе ім падабаецца. На сялянства былі наложаны натуральныя падаткі. Лішкі хлеба ня сталі забіраць, а дазволілі прадаваць з вольнае рукі. У сувязі з гэтакай палітыкай, той, хто выявіў спрыт і магчымасьць, дык стаў хутка багацець, а калі гэтак, дык павеяла старынкаю. І вось на грунце палітычна-эканамічных пераменаў паўсталі спрэчкі паміж самымі камуністымі: адны ўбачылі ў гэтым адступленьні ад камуністычных тэзаў і сталі імкнуцца даператварэньня ў запраўднасьць камуністычнае тэорыі, а некаторыя на далей лічаць патрэбным утрымаць НЭП,—новую эканамічную палітыку. І вось гэтыя апошнія перамагаюць. Дык ясна, што пераможцы адсунулі ад улады непажаданых асобаў, сярод якіх знаходзяцца Троцкі, Зіноўеў і многа іншых. Мала таго, што адсунулі ад улады, але-ж яшчэ выключылі з партыі, ды да некаторых прымянілі рэпрэсыі.

І вось знача, на сьвяткаваньні 10 угодкаў, было забаронена выступаць тым камуністым, якія зьяўляюцца няпрыхільнымі да афіцыяльнага камунізму, але-ж, як пішуць газэты, Троцкаму і Прэабражэнскаму ўдалося наладзіць мітынгі, на якіх яны мелі магчымасьць часткава выказацца, Але-ж быццам міліцыя разагнала гэтыя мітынгі.

Як-бы яно там не сталася, але-ж вачавідным ёсьць фактам, што сярод самых камуністых—нелады. Мы адносімся вельмі крытычна да бальшавізму, але-ж мусім адзначыць, што, калі толькі дойдзе да разрухі сярод камуністых, дык, дзякуючы гэтаму, могуць скарыстаць манархістыя, каб пасадзіць на шыю ўсяму народу—цара.

Што ж будзе рабіць цар? Ясна, што будзе выконваць волю буржуазіі, абшарнікаў ды капіталістых. Будзе адбіраць зямлю ад таго, хто на ёй працуе цяпер, ды будзе зьвяртаць яе—абшарніку. Прынамсі гэтакую праграму высоўваюць тыя расейскія манархістыя, якія знаходзяцца за межамі савецкае рэспублікі.

Пасьля гэтакіх увагаў, пакідаем сьвяточныя дні бальшавіцкае ўлады, ды глянем далей у сьвет шырокі.

І вось мы бачым: сярод спакойных водаў Вялікага акіяну знаходзіцца некалькі выспаў, якія называюцца агульным імянем—Філіпіны. Жыхарства тых выспаў агулам яшчэ мала культурнае, а дзеля гэтага самага некалі папала пад панаваньне Амэрыкі. Ня гледзячы на тое, што Амэрыка—багаты апякун і добры гаспадар, цяпер, калі насяленьне Філіпінскіх выспаў стала культурнейшым, дык пачаў будзіцца ў ім незалежніцкі ідэал. Філіпінцы зразумелі, што хоць і залаты вастрог, але ўсёроўна вастрог... А калі так, дык сабраўшы кангрэс пастанавілі якнайхутчэй дамагацца свабоды.

Гэтае здарэньне, апрача савецкіх сьвяткаваньняў, мы лічым найвыдатнейшай праявай з усіх тых, якія бачылі кінуўшы вокам па сьвеце... Вывадаў ніякіх ня робім: няхай кожны сам падумае—што гэта значыць!?...

Зыркі.

ду, якімі хочаце паганіць беларускі рух?! Ведайце-ж, паночкі, што вам можна ўсё рабіць: грэбацца ў нашым хатнім жыцьці, разбураць нашую хату, зьнеслаўляць павадыроў сапраўднага беларускага руху, арыштоўваць іх і падтрымліваць псэўдабеларускі рух. Аднак не ўдасцца сапхнуць Беларускі Народ з яго адраджэнскага шляху. Ідэалы Беларускага Народу сьвятыя і затым вечныя і зьдзейсьнімыя.



ЯКУБ КОЛАС. 15)

## Сымон Музыка.

Поэма.

(Працяг).

Смутна ў лесе, нібы чары
Напусьцілі тут паны.
Дзе-ж лятункі? Дзе вы, мары?
Адабралі ўсё яны.
Мільгатнуўся вобраз Ганны,
Такі родны і жаданны.
І чаму ён ня йшоў з ёю?
А цяпер гадай, бядуй...
Хлопца штурхнуў хтось рукою—
„Руку, галган пацалуй!"

——

Шыі выгнуўшы дугою,
Дружна коні дол сякуць,
Толькі пыл курыць трубою,
Насустрэч палі бягуць,
Адзінокія курганы,
Вёскі, фальваркі, крыжы,
Лес, смугою чуць засланы,
Сіняй далі рубяжы...
Эх, дарога! Як прыемна
На арлох тваіх ляцець,
Не гадаць-бяжаць дарэмна,
Думак клопату ня мець,
А сказаць: Э, будзь, што будзе!
І ня думаць ні аб чым,
Толькі чуць, як лёгка грудзі
Дышуць полем веснавым,
А ў разлогах аксамітаў
Дрэвы пышныя ўстаюць,
І дрыготна хвалі жыта
Плыўкадымныя бягуць...
Першы раз скрыпач убогі
Зьведаў гожасьць тэй язды...
Эх, дарогі! Эх, дарогі!
Вы куды йцзяце? Куды?

II

— Унь і замак, бачыш? вежы!—
Пугаўём махнуў хурман:—
А вось тут быў лог мядзьвежы,
Дзікі тут хадзіў кабан,
Тут пладзіліся і сарны,
Тут пладзіліся зубры...
Эх, бары былі, бары!
Але й ім прышоў час марны.—
І ўздыхнуў хурман стары.
Можа ўспомніў век пражыты,
Маладыя свае дні,
Вечар, мрокам апавіты,
Жыцьця зьніклыя агні.
— Гэй, вы, конікі малыя,
Сакалы мае ўдалыя!
Што прысталі?—
Лейцы ён падняў, махнуў...
Коні шыі заламалі,
Бы агонь іх жахануў,
І панесьлі! Брычка скача,
Мякка бубенцы зьвіняць...
Ці ня песьня ў іх бядача,
Доля горкая чуваць?
А Сымон глядзіць на вежы
І на гэты замкаў пых...
Эх, чужыя гэта межы!
Не для іх ён, не для іх!
Але трохі і цікава,
Хоць нагледзіцца ўсяго,
Калі-ж кепска будзе справа,
Хто ўтрымае там яго?
А дзянёк у цішы-разважаньні
На спакой адыходзіць павольна;
Задуменьне ляжыць у блісканьні,
Як той усьмех апошні расстаньня,
Як той погляд каханьня супольны.
І вялікі-ж дзянёк у прыгодзе!
Надарыў ён Сымонку багата:
Эх, дзе раніца тая зачата!
Эх, дзе поўдзень прашоў, яго сьвята!
Эх, дзе вечарам з думкамі ходзіць!
А на замку пазалота
Грае ў чырвані, гарыць.
А галота... Дзе-ж галота?
Сланяецца каля плота,
У гразі яна ляжыць!
Мрок ачнуўся, скуль-ся глянуў
І пасунуўся рупліва
З таго лесу праз паляну
Насустрэч якраз туману,
Што з нізіны ўстаў маўкліва,
Сьлепавочна, баязьліва.
Мрок няветлы і зацяты,
Жмурыць вочы з-пад карэньня,
Уздымае хіб кудлаты,
Па палёх раняе латы
І край неба тчэ ў суценьне,
Каб разьвесіць свае шаты.
Хмаркі, неба, лес, зямліца,—
Усё сьціхла, зорыць чутка:
Штосьць замысьліў мрок-сьляпіца!
З горак сходзіць багравіца,
Дзесь галосіць-плача дудка,—
Будзе сьціпна, будзе жутка,
Калі зьляжа ноч-чарніца!
Замак грозны і варожы,
Так пануры яго вежы:
І хоць ён здалёк пахожы
На царкву, касьцёл, „дом Божы",
Ды з залочанай адзежы
Вее чымся злым і рэжа,
Коле вочы ў падарожжы.
Блеск у вокнах—сьмех фальшывы,
Ён ня вабіць, ён ня грэе;
Тыя вокны—вочы зьмея.
Пазірае замак скрыва,
І ён душыць, гне маўкліва.
„Куды-ж еду? Дзе-ж я? дзе я?"
Хлопец думае тужліва.
Вось гара. Прыціхлі коні,
Колы рэжуцца ў пясок,
А з гары, як на далоні,
Разам выплыў гарадок
З яго цэрквамі, дамамі
Розных постацяй, ладоў,
З мураванымі сьцянамі,
З яго купамі садоў,
Вязаў пышных, поўнацелых,
Ліп разложыста-густых
І крыжоў, даўно збуцьвелых
На магільніках старых.
Захад чырвана-ружовы;
Дзень пахованы ўжо ім,
Бы замерлі яго словы
На крыжы, на залатым.
І страх нейкі бяспрычынны
Душу хлопчыка абняў.
Бы ён руку самачынна
На той горад падымаў.
Ці-ж яму, палёў дзіцяці,
Сыну лесу і дарог,
На дарозе панскай стаці,
Жыць у зімку, гарадох?
І ў Сымонкі прад вачыма
Ўсталі родныя куты,
Хата бацькава, радзіма,
Грушы дзікія, платы...
І якая гэта доля—
Ласкі мацеры ня знаць,
Казкі, песьні свайго поля
На чужыя памяняць?!
Ды ня век быць пад прыгонам:
Ён на свой лад зажыве—
Думкі ёсьць у галаве—
Не жартуйце-ж вы з Сымонам!

# З жыцьця Польшчы.

### Цікавы зьезд.

13 г. лістападу ў Варшаве адбыўся польскі зьезд былых ідэйных вязьняў. Гэта знача тых палітычных вязьняў, якія адбылі кару і выпушчаны на волю, за часоў панаваньня дамаёвага ўраду. Прадстаўнікі сучаснага ўраду прывіталі зьезд, дык і цікава будзе калі адзначым, што вітаючы зьезд тых палітычных вязьняў, якія адбылі кару, нікто не ўспамянуў тых вязьняў, якія за грахі проці, аружнаю сілаю адсунутага ад ўлады эндэцка-пястоўскага ўраду, яшчэ і дагэтуль запаўняюць вастрогі, а сярод іх, многа і нашых Беларусаў.

### Армія безработных.

Згодна ўрадавых дадзеных на 5 лістапада г. г. у Польшчы было зарэгістраваных 117996 безработных з якіх 31107 жанчын.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Камуністычная апазыцыя.

Газэты пішуць, што ў Маскве адбываюцца тайныя сабраньні апазыцыі камуністычнае партыі. Быццам на гэтых сабраньнях старшынствавалі Троцкі, Каменеў, Ракоўскі і Зіноўеў. Апазыцыянеры не прапускалі на свае паседжаньні сяброў сталінскага цэнтру.

### Дэманстрацыя ў Шанхаі.

У Шанхаі, у Кітайшчыне, перад радавым кансульствам расейскія эмігранты рабілі варожыя да бальшавікоў дэманстрацыі, ходзячы са старымі расейскімі сьцягамі і пяючы царскі гымн.

### Партугалія не супакойваецца.

У Партугаліі пануе нэрвовы настрой народных гушчаў, палітычных і грамадзкіх арганізацыяў, выкліканы чыннасьцю дыктатарскае ўлады, падаўляючае ўсякую свабоду ў краі. З дня на дзень чакаюць новых крывавых падзеяў, а мо' і гаспадарственнага перавароту.

### Справа югаславянска-францускага дагавору.

Як ужо ведама, дык Югаславія і Францыя падпісалі прыяцельскі дагавор. Дзеля гэтага самага Югаславянскі міністар Марынковіч выежджаў у Парыж. Гэта вельмі ўстрывожыла Італію, бо гэты дагавор абмяжоўвае свабоду руху Італіі на Балканах. Дык і ня дзіва, што прапанову Францыі аб супольным абгавараньні справы Балканаў, Італія прыняла вельмі няпрыхільна.

Югаславія-ж здаецца неяк стала сьмялейшаю, ды загаварыла зусім іначай. Міністар Марынковіч вяртаючыся з Парыжу меў заехаць у Рым але-ж падпісаўшы прыяцельскі дагавор, паездку ў Рым адлажыў, пры чым заявіў, што калі Рым хоча, дык няхай і распачынае гутарку аб упарадкаваньні італьянска-балканскіх справаў.

### Белыя мары.

У той час, як у Маскве бальшавікі ўрачыста сьвяткавалі 10-я ўгодкі існаваньня радавае ўлады ў Расеі, у Парыжы расейскія эмігранты наладзілі паніхіду па ўсіх забітых, замучаных і памёршых за дзесяць гадоў бальшавіцкае ўлады. Пасьля паніхіды адбылося сабраньне, на якім між іншым аратарстваваў былы царскі генэрал Дзенікін каторы падчыркнуў, што антыбальшавіцкі „белы рух" збавіў Эўропу ад навалы віхру чырвонага шалу. Але што з гэтага, скажам мы, калі „белы рух" збавіў Эўропу, шкодаю Расеі.

# НАВІНЫ.

— **Канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу ў Навагрудку.** У панядзелак 21-га лістападу ў Навагрудку мае адбыцца канфэрэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу. На канфэрэнцыі будуць сябры і сымпатыкі Саюзу з Навагрудзкага пав., Старшыня Цэнтральнага Камітэту пасол В. Рагуля і сябра Ц. К. гр. І. Куніцкі.

— **Беларускі Народны Тэатр у Сьвянцянах.** Дня 8, 9 і 10 лістападу Беларускі Народны Тэатр Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры зрабіў тры выступленьні. Два разы была адыграна „Паўлінка" і „Заручаны Паўлінкі", адзін раз „Хам"—драма у 4-х актах. Са Сьвянцянаў тэатр выехаў у Сьвір, а са Сьвіра мае паехаць у Лынтупы.

— **Спэктакль у Старай-Рудне.** У нядзелю 20 лістападу адбудзецца спэктакль у в-цы Старай-Рудне, Варнянскай вол., Віленска-Троцкага павету. Спэктакль ставіць Жодзіскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Будуць адыграны п'есі: „Пташка Шчасьця" і „Чорт і Баба". Пасьля прадстаўленьня—сьпевы, дэклямацыі і скокі (танцы).

— **Праца Гуртка Б. І. Г. і К. у Нарэўцы.** У нядзелю 20 лістападу ў м. Нарэўцы, Бельскага пав., адбудзецца спэктакль-вечарына, наладжаны праз Гурток Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Адыграныя будуць п'ескі: „Страхі жыцьця" і „Пасланец". Пасьля прадстаўленьня сьпевы і скокі. А ў панядзелак 21 лістападу па ініцыятыве ўраду таго-ж Гуртка мае адбыцца агульны сход з мэтай арганізаваньня коопэратывы.

— **Непатрэбная рэч.** Газэта „Праца" № 3 у хроніцы пералічыўшы ўсіх сяброў Цэнтральнага Камітэту Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі зрабіла наступную прыпіску: „Як відна з гэтага складу, хадэцыя і сельсаюз навет у сваіх цэнтральных установах маюць адных і тых самых людзей!... Цікавыя партыі!..."

І праўда цікавыя, але-ж цікавыя і людзі, якія пішуць газэту „Працу", бо навошта пісаць тое, што зусім нікому не патрэбнае і не справядлівае?... Калі-б гэта напісаў Паўлюкевіч ці Умястоўскі, дык было-б зусім зразумела, бо за гэтакія рэчы ім плаціць урад!.. Ну а „Працы"?! Няўжо і вам хто-колечы за гэтакія рэчы заплаціць?

Для высьвятленьня праўды падаём склад Цэнтральнага Камітэту Хадэцыі паводле весткі з „Працы", а іменна: кс. А. Станкевіч, А. Стэповіч, П. Каруза, Я. Шутовіч, Я. Пазьняк, Яковіч, Дварэцкі, Красоўскі, Грабінскі, Жук, Ушакевіч. Рэвізійная Камісія: Ст. Станкевіч, В. Малей, Аўрайцэвіч і Лукашэвіч.

Ну, а цяпер для параўнаньня падаём склад Цэнтральнага Камітэту Сялянскага Саюзу: сябры—пас. В. Рагуля, пас. Ф. Ярэміч, А. Більдзюкевіч, д-р Туронак, Куніцкі, Юхневіч і Ст. Сьвістун і кандыдаты: Матусэвіч і Аніськовіч. Дык дзе-ж тут увідзела „Праца" тых самых людзей?

Цікавыя вочкі маеце, паночкі! Цікавыя!... Навошта-ж пісаць непатрэбныя рэчы?

# Гаспадарскі аддзел.

### Гутарка пра штучнае ўгнаеньне.

(Канчатак).

На ўсіх землях найвыразьней у нас выступае брак азоту. Гэты брак можа пакрыць гной ад скаціны (гной лічыцца поўным угнаеньнем і ўносіць у зямлю ўсе складнікі спажывы для расьлін).

З штучных угнаеньняў азот замяняе чылійская і нарвэская салетры, амонавы сярчан, азатняк.

**Чылійская салетра** мае ў сабе 15—16% чыстага азоту. Яна дрэнна перахоўваецца, бо працягваючы з паветра вільгаць, хутка зьбіваецца ў камякі. Зямля салетру не затрымлівае, ад чаго яна хутка выпаласківаецца ў ніжэйшыя слаі. Дзеля гэтага салетру сеюць на руні. Калі гаспадар жадае ратаваць слабыя засевы, дык салетра тут робіць дзівы. Пад азіміну салетру сеюць 2 разы: увосень па руні і вясной, як толькі жыта пускаецца ў рост. З ярынаў найлепш спажываюць салетру авёс. Пад бульбу салетру трэба ўносіць загадзя, бо ад яе бульба зрастаецца буйна ў каліўе і апазьніваецца з завязваньнем бульбінаў. Вельмі добра адзываюцца на сялетру буракі, пад якія яе ўносяць перад апошняй аполаўкай буракоў.

Салетра, пападаючы на мокрыя часткі расьлін, нішчыць іх зусім, дзеля чаго яе сеюць у сухую пагоду і на сухія расьлінкі.

Салетра—гэта атрута, а таму трэба ня пускаць скаціну на сьвежа-салетраванае поле.

Немцы перад вайной ужывалі салетру на дзесяціну да 25 пудоў, і знаходзілі, што ўжываньне яе аплачавалася ў такой колькасьці. У нас на Беларусі, дзякуючы іншым эканамічным умовам жыцьця, спадзяваюцца, што 25 п. салетры на дзесяціну пры яе дарагавізьне не аплаціцца. Ужываюць да 10 пуд. на дзесяціну.

**Нарвэская салетра** ўжываецца таксама як чылійская салетра.

---

А тымчасам коні гулка
Б'юць па бруку капытом.
Вось масточак і рачульку
З сітняком і чаратом.
Ідуць домікі радамі
З акянцамі, садамі,
Каля вокан геаргіні,
Ружы кусьцікі і мак
І гарошак бледна-сіні
Між тых красак, бы прымак.
А там, далей, камяніцы,
Рынак, крамы пустыры,
Манастыр, касьцёл, капліца
І муры, муры, муры...
Ад касьцёлу іх дарога
У бок крута павярнула,
На падмурку мільгатнула
Постаць нейкага сьвятога
У сутане, рукі ўзьдзеты,
Вочы ўзьведзены кудысь,
Бы за грошы замак гэты
Шле малітвы ён увысь.
Перад імі, як талерка,
Ціха круглiцца, блішчыць,
Зьяе возера-люстэрка,
А над возерам стаіць
Замак грозны, замак хмуры;
Валы, байніцы відаць,
Няпрытульна і панура
Сьцены гэтыя глядзяць.
Замак меў адну дарогу—
Вузкі насып між вады.
„Тут ня выйдзеш, як з астрогу...
Эх, куды папаў! Куды!"
Так Сымонка сам з сабою,
К замку едучы, гадаў.
Нейкім страхам і жудою
Гэты замак патыхаў.
Вось і ўезд у двор замковы—
У мурох нібы нара;
Гучна стукаюць падковы,
Бы дае тут знаць гара,
Што сюды хтось уяжджае—
Госьць няпрошаны, чужы.
Вось зьбяжыцца стража злая!
Калі вораг ты—дрыжы!
Але зараз ціха стала,
Грук замёр да капытоў
А ноч косы расплятае,
Мрок вылазіць з-за кустоў
І на ліпы воўну сьцеле,
Іх мяняючы абрыс,—
Нібы з прасьніцы кудзеля,
Толькі спушчаны наніз.
Ціха ў зімку і нялюдна,
Бы ён вымер, бы пусты.
Сном заснуўшы неабудна,
Як той волат закляты.
Ды дарожкі ўсе ў парадку
І праведзены пад шнур,
Гожы клюмбачкі і градкі
Розных выглядаў-фігур,
І такі йдзе дух пахучы,
Чуць-чуць ветрык патыхне,
А там дзесь у старане
То патухне, то мільгне
Нейкі блеск, агонь бягучы...
Дзіўна ўсё пад гэтым мрокам!...
Без канца вялікі двор—
Не акінуць яго вокам,
Шырыня, разгон прастор!
Брычка двойчы павярнула,
Тры ўжо мосьцікі мінула
І спынілася—канец!
—Ну, пабудзь-жа тут, хлапец!
Я на момант невялічкі
У кантору забягу—
Яна там, унь, на рагу—
Ліст аддам!—Хурман зьлез з брычкі,
Ідзе, ногі распраўляе,
Бо дарога-ж не малая.
Хлопцу-ж сьцішна з няпрывычкі.
Зьнік хурман у сутуненьні,
І заціхлі яго крокі,
А Сымонка, адзінокі,
Ловіць зыкі ў натужэньні,
Ды ўсё ціха. Дзесь блізютка
Прамільгнуў кажан вушасты,
У кустох лісток зашастаў,
Нешта піскнула ціхутка,
Тыя-ж дрэвы, нібы зданьні,
Пазіраюць грозна-строга,
Бы цікуюць на малога
У маўклівым разважаньні.
Тут знаёмы толькі зоры
І прыветны з ім, лагодны;
Той-жа вобраз мілы, родны,
Той-жа блеск іх у прасторы...
Ша, ідуць! Замёр хлапчына:
Глуха тухкае хурман,
А за ім ідзе мужчына,
Незнаёмы нейкі пан.
— Ну,—сказаў хурман:—злазь,
сынку!
Тут табе і хлеб і дом.
Дык служы-ж цяпер паном!
Што-ж? у добрую часінку!—
І спытаўся пан замковы:
— Гэта ён музыка й ёсьць?
— Ен, ён самы, ягамосць;
Ну, сынок, бывай здаровы!—
Зьлез Сымонка і са скрыпкай
За „ягомасьцем" ідзе.
Пан ягомасьць паліць піпку,
Сам сабе пад нос гудзе;
А калёсы мерным стукам,
Коні гучным капытом
Адклікаюцца адгукам,
Як апошнім тым зьвяном,
Што злучала хлопца з полем
І з прасторамі лугоў...
Зашчымела сэрца болем:
Зноў чыясь чужая воля,
Ўлада новых абцугоў!
Колькі крокаў шлі маўкліва,
Потым пан пачаў пытаць
З насьмяханьнем і жартліва.
Дзе вучыўся хлопец граць,
Як натрапіў ён на князя,
Яы дабіўся ласкі там,
(Ды яму ва ўсякім разе
Трэба помніць, што ён—хам).
І з сабою пан мармоча:
„Ну, пабачым, што за жог.
Як ён заўтра засьвяргоча
І капусту і гарох".
Хлопец толькі гляне скоса.
Ой, відаць, нягодны, гад!
Хоць цяпер бяжы назад,
Але сьціхнуў шум калёсаў.
Ён адзін тут з гэтым панам.
І куды ён завязе?
Лепш памерці пад парканам,
Чым служыць такой брыдзе.
Але йдзе за ім пакорна,
Штось заныла на душы.
Як і ночка, думкі чорны,
Толькі зорачкі ў вышы
Над панурым замкам зьзяюць,
Блеск іх ветла так дрыжыць;
Зоркі хлопцу спагадаюць.
Ну, што-ж? трэба тут пажыць.
Вось і домік мураваны
Выплыў раптам з-за расьлін.
— Ну, Шопэн ты калашманы,
Ты тут будзеш не адзін:
Там пры кухні жывуць „людзі",
Як і ты, усе яны;
Там прыпынак табе будзе.

(Далей будзе.)

